# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Біскупская вул. 12.
Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 30 м.
Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты).
Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год I. Вільня. Пятніца, 21-га кастрычніка 1921 г. № 17.

## Верхня-Сьлезкія і тутэйшыя хмары.

Вэрсальскі трактат, якім закончылася сусьветная вайна, перакроіў Эўропу на новы лад, скасаваўшы старыя граніцы і устанавіўшы новыя. На руінах струхлеўшых і разьбітых вайной старых дзяржаўных арганізмаў паўсталі новыя дзяржавы з новымі граніцамі. Жыцьцё ў гэтых новых дзяржавах адразу пайшло больш-менш спакойна і нормальна. Возьмем хоць-бы Чэха-Славакію, Юга - Славію, Румынію, навет Аўстрыю. Пасьля некаторага пэрыяду ўнутранага, арганізацыйнага неспакою і пагранічных спрэчак, новыя дзяржавы жывуць цяпер зусім нормальна, а матар‘яльнае становішча іх, іх грашавыя справы (валюта) стаяць крыху толькі горай, як у наймацнейшых капіталістычных краёх.

Толькі аднэй Польшчы не пашанцавала, можна сказаць, ува ўсім. І граніцы яе да апошняй пары не установулены аканчальна амаль ні з ўсіх бакоў. І ўнутранае жыцьцё Польшчы не наладжана, дзякуючы барацьбе паміж сабою партыяў, як у Сойме, так і ўва ўсёй старане, а таксама дзякуючы рэакцыйнай польскай палітыцы наагул, асабліва-ж у адносінах да нацыянальных меншасьцяў. І матар‘яльнае становішча Польшчы вельмі няважнае, бо польская марка стоіць у разоў сорак менш, як напр. чэская карона, або навет нямецкая марка.

Для кожнага ясна, што фінансы кожнай дзяржавы залежаць у вельмі значнай меры ад палітыкі, якая ёю вядзецца. Асабліва гэта адносіцца да маладых, паўстаўшых дзяржаваў. Чым, як ні рознымі адносінамі да палітыкі, напр., Лацьвіі і Польшчы, можна растлумачыць тое, што лацьвійскі рубель у разоў дзесяць даражэй за польскую марку, тады як Лацьвія ў разоў 10 меншая за Польшчу, а народу ў Лацьвіі ў разоў 20 менш, як у Польшчы. Павінна было-б выглядаць іначай: польская марка павінна была-б каштаваць у разоў 15 даражэй, як лацьвійскі рубель, г. з. польская марка павінна была-б падаражэць у 150 разоў проціў цяперашняга яе курсу. А мы бачым зусім што іншае.

Цяпер курс польскай маркі пасьля катастрофічнага яго ўпадку, ізноў падняўся. Выклікана гэта галоўным чынам тым, што Ліга Народаў прызнала Польшчы значную часьць Верхн. Сьлезіі — паветы: Рыбніцкі, Пшчынскі, Катовіцкі, Каралеўскую Гуту, часьць Бытомскага бяз Бытому, часьць Тарноўскіх гораў і часьць Люблінецкага.

Прыймаючы пад увагу досіць дрэнную палітычную сытуацыю, якая утварылася для Польшчы заграніцай у апошнія часы, ня можам ня прызнаць, што аддача Польшчы значнай часьці В. Сьлезіі ёсьць аграмадным плюсам Польшчы, папраўляючы яе фінансавае палажэньне, а разам і палітычнае. Разумеецца, мы далёкія ад таго, каб лічыць, што Сьлезія вылечыць Польшчу ад усіх яе хваробаў. Шмат чаго яшчэ ў Польшчы трэба ўрэгуляваць. Галіцыйскае пытаньне, землі украінскія і беларускія, адносіны да Літвы, — з усім гэтым трэба скончыць так, як вымагае звычайная агульна-чалавечая справядлівасьць, г. зн. адмовіцца ад усякіх пратэнсіяў на землі, дзе няма польскай большасьці, ці дзе большасьць насяленьня ня хоча польскай дзяржаўнасьці.

Мы з вялікім зацікаўленьнем сачылі за ходам змаганьня палякоў за Сьлезію. Мы шкадавалі, калі плебісцыт 20 марца г. г. ня даў патрэбных карысных для Польшчы рэзультатаў, бо Сьлезія — старая польская провінцыя, толькі моцна зьнямечаная ў працягу вякоў. Мы здаволены цяпер, што значная часьць Сьлезіі адойдзе да Польшчы. Рашэньне Лігі Народаў мы лічым справядлівым і карысным для Польшчы. Але-ж з гэтага рашэньня Л. Н. мы робім належныя постуляты для польскай палітыкі ў адносінах і да нас і да ўсіх народаў, пакрыўджаных польскім імпэрыялізмам.

Зара вызваленьня сьлезкіх палякоў з-пад нямецкага панаваньня ёсьць зарою вызваленьня і нас і іншых народаў з-пад польскага панаваньня. Горна-сьлезкія чорныя хмары, вісеўшыя над Польшай ад пачатку яе незалежнасьці, душылі і нас усіх: беларусаў, літоўцаў, украінцаў, бо калі-б не прагналі гэтых хмар з польскай Сьлезіі, то і над часткамі Беларусі, Літвы і Украіны маглі-б застацца вісець чорныя хмары нашай няволі пад Польшчай.

Немцы злуюць цяпер і абураюцца проціў вырашэньня верхнясьлезкай справы не на іх карысьць. „Калі-б Польшча дастала часьць Сьлезіі,—гавораць яны вуснамі рэдактара газэты „Berliner Tagblatt“ Т. Вольфа,—то мы (немцы) будзем старацца ўсялякімі магчымымі спосабамі, каб польская дзяржава раней ці пазьней загінула“.

Польшчы тым трудней будзе змагацца з немцамі, чым больш нездаволеных шырокіх бяспраўных масаў няпольскай нацыянальнасьці будзе пад Польшчай.

Прыклады Аўстра-Вэнгрыі, Турцыі, Расеі, а яшчэ раней Рыму і Грэцыі даюць ясны доказ, як наймацнейшыя, здавалася-б, дзяржавы развальваліся ўшчэнт ад таго, што яны былі турмамі народаў.

Ворагі Польшчы тым лягчэй яе пагубяць, чым больш у ёй будзе закабаленых народаў, тады як, будучы вольнымі, народы гэтыя заўсёды памаглі-б Польшчы змагацца за яе і сваю незалежнасьць.

Так! В.-Сьлезкія хмары расьсеяліся на радасьць Польшчы. Але ня будзе пэўнай радасьці ў Польшчы, пакуль чорныя хмары няволі над намі і іншымі народамі вісяць на розных „крэсах“ сучаснай Польшчы.

Калі Сьлезія — *Польская*, дык наш край *Беларуска-Літоўскі*. У пытаньнях аб В.-Сьлезіі і нашым краі ёсьць аналёгія і пры тым на нашую карысьць, бо край наш, здаўна заселены беларусамі і літоўцамі, меў навет сваю дзяржаўнасьць, доўгі час зусім незалежную, потым быў ў вуніі з Польшчаю, але не пад Польшчаю, а пасьля гэтага быў пад Расеяй, але застаўся, як і быў заўсёды, беларуска-літоўскім. Ніхто не адкідае таго, што ёсьць у нашым краі і польскі элемэнт, пераважна магнатэрыя і шляхта, лічыўшая сябе калісьці беларусамі, або літоўцамі. Але элемэнту польскага ў нас куды меней, як нямецкага ў В.-Сьлезіі.

У нас і без плебісцыту ўсё ясна, тым болей--бяз усялякага Сойму пры сучасных варунках.

*В—к.*

## Патрэба арганізованнасьці.

Ніхто ня будзе спрачацца з тым паглядам, што вучыцельства ў народным жыцьці грае вялізную ролю. Немцы навет мелі, як-бы, прыказку, што Нямеччыну стварыў народны вучыцель.

Пры досіць нізкім разьмеры самасьвядомасьці нашае фундамэнтальнае нацыянальнай масы—нашага сялянства—ў часы нядаўняга бесчалавечнага расейскага над намі гнёту, вучыцельства магло ўсё-ж такі падтрымліваць сьвяты агонь нацыянальнай сьвядомасьці ў шэрай масе, калі-б толькі шчыра гэтага жадала,

Нажаль, народныя вучыцялі нашы праходзілі праз чартоўска-спрытную расейскую вырабу ў дарэвалюцыйных школах-сэмінарыях. Усё, што толькі хоць крыху аддавала родным, прост выпальвалася з душы іх сьмяротнай атрутаю „могучаго русскаго языка“, вышэйшай славеснасьцю і г. д. Асыміляцыя была нарыхтована спрытна і, часова, вырывала з шэрае масы беларускага народу яго родных дзяцей, ставячы іх на службу чужым,—зробленым для іх „роднымі“—інтарэсам.

Да вайны скалануць вялізную масу нашае народнае інтэлігэнцыі, пераважна вучыцялёў, каб зьбіць яе з няжывога пункту нацыянальнай несьвядомасьці, ці праўдзівай няцікаўнасьці для яе гэтага пытаньня, ня было амаль ніякае магчымасьці.

Аўтор гэтых радкоў можа з прыкрасьцяй спомніць, як на ўсерасейскім зьезьдзе па пытаньнях народнай адукацыі ў Петраградзе ў 1912—1913 школьн. г. амаль не аднаму прыходзілася прабаваць выступіць у абарону беларускае мовы ў школе. На зьезьдзе гэтым літоўцы, латышы, украінцы, армянцы, а навет і якуты арганізованна і моцна баранілі прынцып нацыянальнае школы, апіраючы яго ў той час на прынцыпе матчынай мовы ў школе.

Калі-ж паўставала спроба выступіць у абарону школы беларускае, дык хто-ж пярэчыў гэтаму з янычарскай пенаю ў роце?

Нажаль, горшымі ворагамі беларусізацыі нашай вясковай народнай школы зьяўлялася ня большасьць зьезду —вучыцельства велікарускае, а наша вучыцельства, у расейскіх сэмінарыях пакалечанае душою й аднабока выхаванае.

Што можна было парадзіць, калі ў адказ вам кідаліся словы: „я тоже бѣлорусс“ і г. д.

Рэвалюцыя ў Расеі ў сакавіку 1917 г. дала поўную магчымасьць вольнага разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху і, нажаль, вучыцельства наша было зусім непадгатавана да актыўнае хуткае рэалізацыі ранейшых індывідуальных думак аб нацыянальнай школе. Большменш сьвядомым было толькі вучыцельства ў Меншчыне, стаўшай па рэвалюцыі цэнтрам беларускага нацыянальнага руху, дзе, напр., можна прасачыць гэткі факт, як рашучы протэст зьезду вучыцялёў менскага павету проці разгону бальшавікамі Ўсебеларускага Конгрэсу ў сьнежні 1917 г.

А яшчэ летам гэтага самага 1917 г. можна было з прыкрасьцяй бачыць, як на зьезьдзе ў Менску вучыцялёў - вайсковых Заходняга расейскага фронту байкатаваліся беларускія выступленьні гэтак-жа сама „тоже бѣлоруссами“ пры поўным спагаданьні беларускім выступленьням збоку... вучыцялёў-велікарусаў ну, і, зразумела, сьвядомых украінцаў.

А яшчэ раней на павятовым нейкім зьезьдзе менскага сялянства, калі выступілі беларусы-аратары ў абарону нацыян. школы, дык у адказ маглі пачуць толькі дзікую лайбу й розную брахню збоку каго-ж? А ўсё сваіх-жа асыміляваных народных вучыцялёў. Навет горш таго, некаторымі з гэтых цёмных рабоў чужое культуры пагарджаліся беларускія кніжкі на вачох яшчэ цямнейшага (адукацыйнна) за іх сялянства. Беларускія аратары прызываліся проста прадстаўнікамі... „польскае інтрыгі“.

Гэта апошняя брахня была асуджана гісторыяй яшчэ шмат раней за сучаснае актыўнае змаганьне за сваю школу беларускага вучыцельства з польскімі інспэктарамі...

Зусім нязначны кавалак часу прайшоў з тае пары, як гэткія прыкрыя здарэньні мелі месца ў цэнтры беларускага руху. Сягоньня яны ўжо там зусім немагчымы. Бо навет бальшавікі, з тых, ці іншых прычын, прызналі, нарэшце, што для беларускага дзіцяці патрэбна беларуская школа.

Пад польскім панаваньнем сьвядомасьць нацыянальная нашага вучыцельства расьце, нягледзячы на відочныя заходы школьнае адміністрацыі ў кірунку недапушчаньня да жыцьця новых беларускіх школаў і поўнага ліквідаваньня тых, што ўжо жывуць.

Але трэба прызнацца, што вельмі бракуе нашаму няшчаснаму вучыцельству таго, што значна павысіла-б яго стойкасьць і моц, — бракуе арганізованнасьці, ці то ідэйна-прасьветнае, ці профэсыянальна-апалітычнае, ўсё роўна.

Ідэйна кожны з нас можа салідарызавацца ў апалітычнай арганізацыі „Таварысьцьве Беларускае школы“, профэсыянальна заўсёды можна патрапіць арганізавацца, абы толькі хапала на гэта патрэбнага жаданьня.

Аднаго патрыятычнага імпату й голай індывідуальнай беларускай сьвядомасьці нашага вучыцельства, моцна вырасшай за кароткі час, яшчэ мала, калі ня будзе зьведзена яна ў моцныя арганізованыя формы.

Ніхто з нас ня мае моральнага права ўхіляцца ад працы ў гэткай маладой, але ўжо моцнай арганізацыі, як „Т-ва Беларускае школы“.

**Вучыцель.**

---

**Суліма.**

# Ад безьзямельнага батрацтва да дзяржаўнай незалежнасці.

*Барацьба аграрнага краю з прамысловым.*

III.

Перш чым перайсьці да пытаньня аб імпэрыялізьме, — і цікаваму для нас тут пытаньню аб магчымасьці для аграрнага краю вызваліцца з жалезных абняцьцяў прамысловага, зробім некалькі дадатковых увагаў аб барацьбе пасыўным мэтодам эміграцыі,—чым мы займаліся ў папярэднім артыкуле.

Мэтод эміграцыі, як кожны мэтод пасыўнага спраціўленьня, мае вялізныя бракі.

Перш за ўсё, з пагляду самага элемэнтарнага: паніжэньне гушчыні насяленьня—абязьлюдзеньне краю—заўсёды зьвязана з паніжэньнем у ім роўню культуры і наадварот. Можна сказаць, што наагул уся сума культуры ў краі ёсьць, як кажуць матэматыкі, функцыяю гушчыні насяленьня. Гэта вельмі нятрудна паказаць і даказаць адно за адным: бо й гістарычна абодва гэтыя зьявішчы — павышэньне гушчыні насяленьня і павышэньне культуры разьвіваліся паўзьбежна.

Вось-жа й можна, як-бы лёгічна „вывесьці“ патрэбнае разьвіцьцё вышэйшых формаў жыцьця з пагушчэньня насяленьня ў ліку, як з „прынцыпу“.

Гэта значыць, што пасыўны мэтод спраціўленьня гвалту і эксплёатацыі, барацьба за вызваленьне краю—нясе ў сабе ўнутраную праціўнасьць, — самаадкіданьне: імкнучы да вышэйшых вольных формаў жыцьця, пасыўнае спраціўленьне эміграцыяю толькі захоўвае ў краі істнуючыя нізкія, альбо зводзіць апошнія да яшчэ ніжэйшых.

Эміграцыя, ня маючы ніякага апраўданьня з пункту гледжаньня эволюцыйна-працоўнага,—не вытрымоўвае крытыкі і як мэтод барацьбы рэвалюцыйна-баявы.

Кожнаму ясна, як затрудняе ўсякую барацьбу рэдкае, параскіданае насяленьне, з якога эміграцыя да таго-ж вырывае самыя моцныя і ўпартыя ў жыцьці элемэнты.

Апрача таго ў прыродзе, як і ў грамадзянсьцьве жыве з роўнаю сілаю безвыняткowы закон, які сьведчыць, што ў жыцьцёвай барацьбе перамагаюць формы, вышэйшае актыўнасьці. Перамагаюць, у кожным выпадку, заўсёды актыўныя мэтоды барацьбы.

Але мы ў першым артыкуле якраз і падкрэсьлівалі, што эміграцыя ёсьць няшчасьце для краю, але што выняткoвая жыцьцёвая ўпартасьць ірляндца з гэтае народнае бяды стварыла, пры падтрыманьні вялікае заатлянтычнае рэспублікі, магутны інструмэнт барацьбы і спосаб перамогі.

Вось і сутнасьць уся ў тым, што ў сваім пасыўным спраціўленьні ірляндзкі народ ня толькі ня згубіў актыўнасьці, але сапраўды, ў найспагаднейшых варунках вольнага народапраўства, вырабіў у сабе вышэйшыя формы гэтае актыўнасьці.

Сапраўды гэтым ён, згодна з вышэйпаказаным біо-соцыялёгічным законам, і забясьпечыў сабе перамогу.

І беларусу, ведама-ж ніхто не пачне паказваць на эміграцыю, як на пажаданы мэтод барацьбы.

Трэба ўсяляк, усімі магчымымі спосабамі разьвіваць і падтрымліваць жывую актыўнасьць народу, прышчапляць яму ўсе, вырабленыя ўсясьветнай культураю, вышэйшыя формы актыўнасьці, ўсе, што перамагаюць у барацьбе й конкурэнцыі, мэтоды.

Але толькі, ў выпадку стыхійнае сілы несьцярпімага, непераможнага на месцы, на бацькаўшчыне гнёту,—прыдзецца ўжываць пасыўныя мэтоды, актывізуючы народную энэргію за межамі.

Але можна і ў гэтым сэнсе супакоіць беларуса: сучасная дэмократыя мае гэткую міжнародную сілу, яе солідарнасьць, пры ўсім рознагалосьсі прыватна-нацыянальных інтарэсаў, гэткі вызначаны фактар усясьветнае палітыкі, што гэткае сілы й бесчалавечнасьці прэсу, пад якім жыла дасюль Ірляндыя, жылі й іншыя народы, ў тым ліку й наш беларус, ад сягоньняшняга дня ўжо быць ня можа.

Ні сам народ не паддасца гэткай пасыўнасьці, ні пакорнасьці, ні яго болей шчасьлівыя таварышы не пакінуць яго ў адзіноце на волю яго лёсу.

На ўсякае павышэньне гнёту народу ад сягоньняшняга дня будуць адказаваць не пасыўнымі мэтодамі, не эміграцыяй, а мэтодамі актыўнымі—працоўнымі й рэвалюцыйнымі.

(Працяг будзе).

# З ПРЭСЫ.

## ВАЕННАЯ КОЛЕНІЗАЦЫЯ.

Перадрукоўваем з «Kur. Polsk.» заметку аб ваеннай колёнізацыі на Беларусі:

„На «kresach wschodnich» шмат ёсьцека зямлі, пакіненай уласьнікамі перад эвакуацыяй у часе расейска-нямецкае вайны. Землі гэтыя, паскольki яны знаходзяцца па нашым баку загранічнага кардону, упраўляюцца нашым (польскім—Рэд.) войскам, што там стаіць. А як выпаўняецца ваеннымі ўладамі гэта місія—сьведчыць гэтакі факт, аб якім паведамляецца з зусім пэўных крыніцаў.

Двор Прозорокі, ў Дзісьненскім павеце, як пакінены ранейшым сваім уласьнікам — расейскім гэн. Мухіным, заняў полк уланаў, што кватэруе ў Глыбокім. Нягледзячы на тое, што мястэчка Прозорокі ня ўходзіць у склад двара тае самае назвы, афіцэр, які кіруе плянам ваеннага пасяленьня, распарадзіўся каб большая частка насяленьня, у тым ліку й жыды, эвакуавалася з гэтае мясцовасьці. Дарэмным было тое, што ўмяшаўся ў гэту справу дзісьненскі староста, які, апіраючыся на права закону, паказаваў, што эвакуацыя можа рабіцца толькі з яго, старасьцінага, пазваленьня. Афіцэр на гэта адказаў, што распараджэньні цывільных уладаў яго ні да чаго не абавязваюць і што ён спаўняе ўсяго толькі прыказы адпаведных ваенных уладаў. Такім чынам каля 300 дружынаў (сем'яў) пазбавіліся стрэхі і крыніцаў істнаваньня.

Ад імя пацярпеўшых жыдоў, клюб жыдоўскіх дэпутатаў T. Z. R. N. падаў мотываваную заяву ў вайсковае міністэрства“.

---

## Польскія соцыялістыя аб праваслаўнай царкве ў Украіне і Беларусі.

Пан. Т. Hołówko ў стацьці „Ўражаньні з Валыні» („Работнік“ № 250) вось як, паміж іншым, піша аб праваслаўнай царкве ў Украіне і Беларусі:

„Аднэй з найбалей пякучых справаў на Ўзьмежках есьць справа праваслаўнае Царквы. Польскі ўрад дагэтуль нічога не зрабіў дзеля ўпарадкаваньня гэтае справы. А тымчасам гэта справа першага значэньня. Спомнім сабе, якія былі рэзультаты таго, што ў XVIII веку праваслаўная царква ў Польшчы ўсё балей рабілася залежнай ад пецярбурскага Сіноду. Даволі ўспомніць хоць-бы вядомую гісторыю ў часы Чатырагодняга Сойму епіскапа Садкоўскага ў Беларусі, які з усяго праваслаўнага духавенства зрабіў падданых і агентаў Кацярыны II. Цяпер можа стацца другім наваротам тая самая гісторыя. У цяперашніх межах Польскае Рэчыпаспалітае знайшлося 5 праваслаўных епіскапаў — паміж іх ніводнага няма мітрапаліта. Дык усе яны залежны ад сваіх даўнейшых мітрапалітаў, а наўперад ад патрыярха Ціхана, які жыве ў Маскве. І гэтая залежнасьць не на паперы толькі, бо праваслаўныя епіскапы зносяцца з Ціханам, дастаюць ад яго інструкцыі і показі. Пакуль у Расеі гаспадараць „бальшавікі“, няма ў гэтым вялікае небясьпечнасьці, але няхай толькі прыдзе іншы ўрад, пры якім духавенства ў Расеі, верне сваё даўнейшае палажэньне—а тады, як стой, пачуем рэзультаты гэтае залежнасьці.

Праваслаўныя духоўныя на Валыні падчас службы зусім яўна „величают“ ня толькі Ціхана, але Антонія Кіеўскага і навет Еўлёгія, які мае баспасярэднюю ўладу над праваслаўным духавенствам на Валыні (а ў Беларусі не?—Рэд.). Гэтакае палажэньне трэба зьмяніць. Мы зможам аднак гэта зрабіць памалу—а ўдасца гэта нам тады, калі паможам Беларусам і Украінцам у іх імкненьні зрабіць праваслаўную царкву ў сябе нацыянальнаю.

Цяпер праваслаўныя духоўныя, прыкл., на Валыні (і ў Беларусі—Рэд.) у вялізнай большасьці зьяўляюцца элемэнтам русыфікатарскім, які заўзята бораццa з украінскім рухам. Польшчу разглядаюць яны як штось пераходнае, затое ў украінскім руху бачаць, не бяз рацыі, дзейнік, што разьбівае адзіню Расеі.

Дзеля гэтага Украінцы не сымпатызуюць праваслаўнаму духавенству, бачачы ў ім з свайго боку, тую сілу, якая перашкаджае ім зусім абняць душу украінскага народу.

Але рух украінскі дужэе, што раз глыбей пушчае ён карэньне і вышэйшае праваслаўнае духавенства на Валыні пачынае цяміць, што далейшая барацьба з гэтым рухам можа скончыцца ўгратаю ўплыву паміж народу, скіраваньня ўкраінскае інтэлігэнцыі ў абоймы Вуніі.

Дзеля гэтага пачынаецца зьверху якісь зварот. Праваслаўны епіскап Валыні, Дзіонізі і яго правая рука, рэктар сэмінарыі, Грамадзкі, яшчэ нядаўна правая рука Еўлёгія, заўзяты русыфікатар, цяпер называюць сябе Украінцамі, належаць навет да „Просьвіты“. Украінцы ў шчырасьць гэтага навароту, ведама, ня вераць, але на гэтай дарозе

---

**Францішак Аляхновіч.**

# ПТУШКА ШЧАСЬЦЯ

п'еса ў 4-х акт.
са сьпевамі і танцамі.

(Гл. № 15).

### АКТ II.

Рай. Каля стала поўнага смачнай ежы і напіткаў сьпяць у мягкіх крэслах Янка і Маланка.

### Зьява 1.

**Янка і Маланка.**

**Янка** (будзіцца, праціраe кулаком вочы). Фу, чорт! дзе-ж гэта я!? Сонца грэе, птушачкі пяюць, музыка нейкая грае... А вось і Маланка мая храпе!.. А якія мягкія крэслы! зусім як пярыны! Што за ліха! Скуль-жа гэта? Чыё-ж гэта? Здаецца-ж учора я ня быў п'яны, дык як-жа ж я трапіў у гэты панскі сад? Трэба разбудзіць Маланку, можа яна нешта ведае... Маланка!.. (Маланка храпе і ня чуе; галасьней, тузаючы яе). Маланка! ўставай!..

**Маланка.** А? Чаго хочаш? Я спаць хачу.

**Янка.** Ды ты пратры вочы і глянь!

**Маланка** (глянуўшы на стол зьдзіўленая). А?! Скуль гэта?

**Янка.** А хто яго ведае! Я думаў, што можа ты нешта ведаеш.

**Маланка.** О, глянь, якія прыгожыя талерачкі і шклянaчкі!

**Янка** (нюхае бутэльку). Добрая панская гарэлка! гэта не самагонка. А што тутака?—Далібог—кілбаса з капустай, а пах дае ў нос, як табака. Добра было-б пакаштаваць трохі, тут ніхто здаецца ня бачыць.

**Маланка.** Не чапай, каб бяды не набрацца! Няма ведама, скуль усё гэта, чыё гэта?

**Янка.** Маланка! А можа ляпей уцякайма адсюль?

**Маланка.** Але, лепш уцякайма, каб бяды ня было! (Бягуць, раптам **Янка** ўстрымоўвае **Маланку**).

**Янка.** Пачакай крыху, я толькі адну чарку... пасмакую толькі...

**Маланка.** Ня сьмей чапаць!

**Янка.** Ціха, ня крычы! Ашалела баба! (Бярэ бутэльку, налівае ў чарку і хоча выпіць).

### Зьява 2.

**Тыя-ж і Лясун.**

**Лясун.** Янка і Маланка! (у Янкі ад страху чарка вываліваецца з рукі, бутэльку ён хавае з-заду).

**Янка.** Выбачайце, панок, я толькі хацеў ведаць смак які...

**Маланка.** Ой-ёй! якое страхацьцё!

**Лясун.** Уважна слухайце мяне! Я ведаў аб вашай бядзе. Я чуў — Вы праклінaлі долю, што шчасьця не дае ніколі. Мне вас зрабілася шкада. Утраціў рай бацька Адам, дык вось цяпер я рай вам дам, скончылася ваша ўжо бяда, скончыўся вашы смутак-сум... Я—Дух Лясны, добры Лясун, шчасьце хачу зноў даці вам.

**Янка** (да Маланкі). Чуеш?

**Маланка.** Ціха! Слухай уважна, бо загневаецца.

**Лясун.**

Зімы для вас болей ня будзе, Ня трэба ўжо сячы дроў. Вы, шчасьлівейшы за ўсіх людзей. У рай папалі вы узноў. Нічога вам рабіць ня трэба, — Яні гараць, ні сеяць хлеба, — стаіць тут поўны стол ўсяго...—Загаду-ж слухайце майго!

**Янка** (да Маланкі). Якога загаду?

**Маланка.** Ціха, ціха! Слухай, што далей...

**Янка.** Цікавасьць, што нам будзе забаронена? А, можа, каб не... (шапоча ей нешта на вуха).

**Маланка** (адпіхае яго). Ідзі вон!

**Янка.** Калі так, дык я ўцяку з гэтага раю!.. (да Лясуна): Пане касматы! А які-ж гэта загад?

**Лясун.** Дык слухай-жа ўважна, Янка! І кожна слова чуй, Маланка! Вось стол: на ём міса стаіць... Ўсё можна есьці і ўсё піць, А місы нельга вам чапаць, яна павінна ўсё стаяць, яе вам нельга адчыняць!.. Вам гэта трэба памятаць.

**Янка** (да Маланкі, ціха). Я думаў, што ён, бог ведае, чаго захоча, а ўсяго... раптам такое глупства: місу не чапаць!

**Маланка.** А хай яна згарыць гэта міса! Хто-ж да яе дакранецца, калі забаронена!

**Лясун.** Калі-ж ня споўніце загад, да хаты пойдзеце назад, зноў праклінаць долю сваю, тужыць аб страчаным раю! (прападае).

стараюцца ўзмацаваць свой уплыў у царкве, дамагаючыся пропаведзяў і вучэньня ў сэмінарыях у украінскай мове.

Да праваслаўнае царквы ў Польшчы, якая будзе украінізавацца і беларушчыцца, усё балей будзе няпрыязна адносіцца вышэйшае духавенства ў Расеі і гэткім парадкам можа настаць самадзельнасьць праваслаўнае царквы ў Польшчы і яе залежнасьць ад Канстантынопальскага патрыярха.

Ведама, калі польскі ўрад будзе памагаць расейскім фактарам у праваслаўнай царкве, дык будзе яна палітычнаю прыладаю ў руках Расеі.

Другая справа, якая можа зрабіць Польшчы няшчысьлёныя школы — гэта пропаганда Царкоўнае Вуніі.

Гэткія мае ўражаньні з Валыні,— кажа, канчаючы сваю стацьцю, аўтар.

У вагульнай суме трэба прызнацца, што няма ў нас у украінскай справе (і ў беларускай таксама—Рэд.) ў Польшчы ясна выткненай лініі так што цэлы сьцяг справаў прынцыпіяльнага значэньня вісіць у паветры.

Усё гэта вытварае атмосфэру часовасьці. Насяленьне, гледзячы на нашую гаспадарку, думае, што запраўды мы самі добра ня ведаем, што рабіць з гэтымі ўзьмежкамі і як іх злучыць з польскім арганізмам“ (? Рэд.).

Як бачым, польскія социялістыя зусім сур‘ёзна займаюцца царкоўнымі справамі, а тымчасам нашыя розныя социялістыя і дэмократы, як агню, баяцца царкоўных справаў, баючыся, відаць, каб іх не абвінавацілі ў клерыкалізьме.

П. С.

* * *

Чэская газэта «Narodni Politika» ад 8. X 21 г. памясьціла заметку:

„У пятніцу 30 верасьня (21 г.) наведалі Альшанскія могілкі прадстаўнікі Беларускага народу, якія гэтымі днямі мелі ў Празе свой Конгрэс і палажылі на гробы згібнуўшых легіянэраў вянок са стужкамі, з надпісам: „Ад Беларускага Народу Чэскім гэроям“. Гр. Крачэўскі, Ластоўскі, Цьвікевіч і Езавітаў у гарачых славах аценілі славу гэрояў. Ад імя Чэх.-Слав. Легіянэрскай грамады падзякаваў гасьцём пасланец д-р Давід, які падкрэсьліў, што Чэха-Славацкі народ рад, што конфэрэнцыя прыгнечанага беларускага народу адбылася ў Празе і выразіў надзею, што прадстаўнікі гэтага народу пачэрпнуць ля гробу чэскіх гэрояў сілу да працы за лепшую будучыну свайго народу“.

Грамадзяне, спаўняйце сваю павіннасьць, запісуйцеся ў „Т-ва Беларускае Школы“!

# Пад небам Лацьвіі.

Пад небам Лацьвіі лагоднай
Так добра чуецца, свабодна;
У твар аж лепей вецер вее
І абуджае зноў надзеі.

З душы пазыў нясецца звонка:
Няпраўда,—родная старонка —
Пяройдуць годы цемнаты —
Да жыцьця вернешся і ты.

Ня вечны груганы ліхія,
Сатрэ іх вольная стыхія
Заявіць голасна: даволі!
Мы хочам жыць, мы хочам волі.

Надзея, будзь-жа вечна з намі —
Ты морам рухаеш, гарамі
Жыві-ж у сэрцы, ня ўмірай
Надзея, ты, на родны край.

*І. Д.*

Д. жнівень 1921.

# Замежныя весткі.

## Адчыненьне Беларускага школьнага Дэпартамэнту ў Лацьвіі.

13 верасьня г. г. на пасяджэньні Рады Міністраў разглядалася пытаньне, высунутае групаю социяль-дэмократаў Устаноўчага Сойму, аб адчыненьні Беларускага Школьнага Дэпартамэнту. Пытаньне гэтае вырашана ў спагадным сэнсе. Асыгнованы патрэбны крэдыт на арганізацыю Дэпартамэнту. (Бел. прэсбюро).

**Прага, 10. X. 21.**

Найшчырэйшымі прыяцелямі беларусаў у Празе зьяўляюцца як і ўсюды, украінцы.

Ад іх пачулі беларусы самыя лепшыя пажаданьні бяз ніякай задняй думкі.

Украінцаў у Празе значны лік. Адных студэнтаў некалькі сот.

Усе украінцы добра з‘арганізованы ў „Грамадзкі камітэт“. Ёсьць партыйныя арганізацыі і моцная студэнцкая „Українська Академицька Громада“, ў якой беларускія студэнты знаходзяць самую лепшую прыхільнасьць.

Адбыўся супольны сход студэнтаў беларусаў і украінцаў, на якім абмяняліся інформацыямі і выражэньнямі шчырых пачуцьцяў адных да адных.

Устаноўлены цесны контакт для далейшай працы.

На сходзе былі асобы з украінскай тутэйшай профэсуры. Як мы даведаліся. ў Празе ў гэтым годзе мае адчыніцца Украінскі Унівэрсытэт, у які заяўляюць жаданьні пастуліць і некаторыя з студэнтаў беларусаў.

Маецца патрэбны штат профэсарскіх сіл і ўжо апрацаваны плян занятkaў.

Беларускія студэнты ў Празе-Чэскай знойдуць для сябе шмат духоўнае стравы.

Ужо на месцы беларускіх студэнтаў ёсьць каля 15. Шмат хто з быўшых тут раньней.

Д.

**Паварот Галавінскага.**

2 кастрычніка вярнуўся з Савецкае Беларусі прэзэс Рады Беларускае Нацыянальнае Сувязі грам. Галавінскі, прабыўшы тамака больш месяца. Ён лічыць, што беларуская нацыянальная праца ў Савецкай Беларусі йдзе добра, бракуе толькі кніжак, асабліва падручнікаў дзеля школ і беларускіх кніжніц.

**Падарожа Жылуновіча.**

Упоўнаважаны Камісарыяту Прасьветы Беларускае Савецкае Рэспублікі З. Жылуновіч (Цішка Гартны) дастаў дазвол ад Нямецкага Ураду на друкаваньне беларускіх кніжак у Нямеччыне і 1-га кастрычніка выехаў з Коўна ў Бэрлін. Частка кніжак друкуецца ў Коўне.

С.

**Літоўскі вайсковы друк аб беларусах.**

У другім нумары вайсковага квартальніку „Musų Žinynas“ зьмешчаны на літоўскай мове „Gudų Kariuomenės dalys Lietuvoje“ (Беларускія вайсковыя часткі ў Ліцьве) і „Gudų karo literatura“ (беларуская вайсковая літэратура), гістарычны і бібліяграфічны нарысы майора Ружанцова.

# Касаваньне банкнотаў.

Польская Краёвая Пазычковая Каса падае да агульнага ведама, што па згодзе міністэрства скарбу выбіраюцца з абегу гэткія білеты першага выпуску: 500-марковае вартасьці, на ўзор окупацыйных, з датаю 15 студня 1919 г., 100-марковай вартасьці з патрэтам Касьцюшкі на ружова-белай паперы, 1000-марковай вартасьці з патрэтам Касьцюшкі і з датаю 17 траўня 1919 г. на ружовай і ружова-белай паперы.

Вышэйназваныя білеты будуць прымацца для абмену толькі да 15 сьнежня 1921 году. Пасьля гэтага тэрміну яны могуць быць абменены на білеты другога выпуску ў аддзелах Польскай Краёвай Касы да 15 студня 1922 г.

**З ь я в а 3.**

**Янка і Маланка.**

**Янка.** Чула?

**Маланка.** Чула.

**Янка.** Добра будзе!

**Маланка.** О! і як яшчэ!

**Янка** (з вялікай радасьцю). Дык мы-ж у раі?!

**Маланка.** Але! ў раі!... Толькі вось адна бяда: я думаю, што ў раі хадзіць гэтак у простай спадніцы і ў лапцёх нязручна. Трэба будзе заказаць сабе панскую модную спадніцу і купіць лексаваныя боцікі... Толькі цікавасьць, як-бы тут паклікаць швачку?

**Янка і Маланка** (пяюць разам). *)

Ўжо ня вернемся да хаты
І забудзем аб бядзе.
Будзем жыць цяпер багата,
Гора ня ўбачым нідзе.
(танец).

**Янка.**

Смачна цяпер буду есьці
І гарэлку буду піць.
Як сыт буду, гадоў дзьвесьце
Я напэўна буду жыць.
(танец).

**Маланка.**

А я апрануся ў шоўкі,
Модну спадніцу зраблю,
Будзе ўсё нова з іголкі,—
Не пазнаць жонку тваю.
(танец).

*) На мэлёдыю полькі „Бульба“.

**Янка.**

Ой, дурная, ці-ж забылась,
Што ў раі трэ‘ голым быць!
Вось як хутка расфранцілась,—
А ня ласка—голай жыць?
(танец).

**Янка** (гавора): Ну, а цяпер, паскакаўшы, трэба пасьнедаць, бо кішкі ў жываце ўжо ня польку, а марш іграюць. Вось ніяк не магу ўспомніць, ці я ўчора вячэраў, ці не. (Сядаюць).

**Маланка.** Толькі-ж, калі ласка, не напівайся, як сьвіньня, бо ў раі гэта, мабыць, забаронена.

**Янка.** Ну, калі так, дык гэты рай перастае ўжо мне падабацца... Але не! брэшаш! Лясун казаў, што нам забаронена толькі глядзець у місу, а есьці і піці можна ўсё, колькі ўлезе.

**Маланка.** А цікавасьць, што ёсьць у гэтай місе, калі нам забаронена туды глядзець?..

**Янка.** Я дам табе за тваю цікавасьць! Забаронена — дык забаронена, а нам якое дзела! Наша мужыцкая справа—слухаць і не мудраваць.

**Маланка.** Але ўсё-ж такі цікавасьць.

**Янка.** Каб я цябе за тваю цікавасьць добра не адластажыў!

**Маланка.** Ну толькі папрабуй!

**Янка.** Ты і тут хочаш са мной сварыцца? Вось ляпей сядзі, маўчы, еш і пі!

**Маланка.** Ты мяне толькі ня вучы. Я свой розум маю!

**Янка** (выпівае, закусвае). Але як танна нам дасталася гэтакае шчасьце! Бяз працы, бяз клопату—толькі нельга ў місу глядзець!.. Ну, дык памятай, Маланка, каб цябе раптам не ўзяла спакуса.

**Маланка.** Вось яшчэ чаго! Што-ж гэта я розуму ня маю, ці што! Калі забаронена, дык ведама, што нельга глядзець—вось і ўсё!

**Янка.** Ну, добра, я ведаю, што ты разумная кабеціна... Ну дык будзем сьнедаць. (Ізноў пачынаюць есьці).

**З ь я в а 4.**

**Тыя-ж і Жыд** (зьяўляецца).

**Янка** (спалохаўшыся). О, глядзі, ён мяне навет і тутака знайшоў!... Але як-жа ж жыд папаў у рай?

**Жыд.** Ты, Янка, ўжо не бядуй і не палохайся. Доўг за гарэлку ўжо плаціць ня трэба. І я табе дам яшчэ ўсяго, чаго захочаш: усялякіх гарэлак, консэрваў, сахарыны ды іншых харчоў. Цяпер ты, Янка, важнейшая асоба за самага важнага пана, і я ўжо не баюся даваць табе напавер.

**Янка.** А—калі так, дык зрабі, браток, добры запас гэтых бутэлечак, каб было чым напівацца і пахмяляцца.

**Маланка.** А мне прынясі шоўку на спадніцу, але самага моднага й найдаражэйшага!

**Жыд.** Магу і шоўку, магу і гарэлкі — ўсяго, чаго толькі захочаце.

**Янка.** Паслухай, браток, дзе-ж гэта мы цяпер? Няўжо-ж у раі?

**Жыд.** Ну, але. Ў раі.

(Канец будзе).

# Палітычная хроніка.

*Пятніца*, 14 *кастрычніка*.

— З Жэнэвы паведамляюць, што Рада Лігі Народаў аканчальна устанавіла граніцы Сьлезіі. Бытом застаецца ў немцаў, а Каралеўская Гута ў палякоў.

— „Kur. Warsz.“ паведамляе, што лінія падзелу В. Сьлезіі не адпавядае лініі, запрапанованай Сфорцаю, а бярэ ў рахунак рэзультаты плебісцыту.

— Нямецкі пасол у Парыжы, Мэйер адведаў Брыяна з мэтаю дабіцца спагаднага рашэньня пытаньня аб Сьлезіі. Ён заявіў пры гэтым, што неспагаднае рашэньне выкліча падзеньне міністэрства.

— Бэрлінская газ. „Vos. Ztg.“ паведамляе, што на пасяджэньні кабінэту 12.X разглядалася пытаньне аб адстаўцы Ураду. Газэта піша, што ў выпадку адданьня Сьлезіі немцам, кабінэт Вірта будзе старацца выпаўніць забавязаньні Нямеччыны.

— „Известия“ паведамляюць, што прадстаўнікамі цэнтральнай камісіі падмогі галодным у Бэрліне назначаны Іоффэ і Крестинский.

— Чэск. газ. „Narodny Listy“ паведамляе, што павадыры рас. эсэраў выехалі ў Прагу, каб быць на конфэрэнцыі пад старшынствам Керэнскага. Эс-эры быццам гатовы ўвайсьці ў коаліцыйны ўрад, калі бальшавікі склічуць установчы сойм і абвесьцяць амністыю.

— У Лацьвіі абвешчана мобілізацыя салдатаў за 5 гадоў.

— Італьянскі упаважнены ў Белградзе заявіў сэрбскаму Ураду ад імя саюзьнікаў, што Антанта не дапусьціць да нарушэньня цэласьці Альбанскай тэрыторыі.

— У Лёндане адчынілася конфэрэнцыя па ірляндзкай справе пад старшынствам Лейд-Джорджа.

*Субота*, 15 *кастрычніка*.

— У Рызе апрацованы проект конкордату паміж Лацьвіяй і Ватыканам.

— „Matin“ паведамляе, што коаліцыйныя камэнданты ў Сьлезіі адтрымалі прыказ трымаць ад серады войскі напагатове, бо будзе агалошаны стан аблогі.

— Рашэньне Рады Лігі Нар. будзе абвешчана сьлезкаму насяленьню не раней паведамленьня аб ім бэрлінскага й варшаўскага ўрадаў.

— Брыян адтрымаў тэкст прапазыцыяў Рады Лігі Нар. аб сьлезкім пытаньні і падаў яго да ведама саюзных дзяржаваў.

— У Польшчы проектуецца адначасны прымусовы падатак. Проект у пасяджэньні кабінэту міністраў прыняты спагадна.

— Нямецкі канцлер Вірт заявіў, што калі рашэньне верхнясьлезк. пытаньня будзе неспагадным, дык сучасны ўрад падасца ў адстаўку.

— Па вестках з Масквы, патрыях Ціхан зьвярнуўся да польскага пасла з прапазыцыяй завязаць перагаворы па пытаньню аб праваслаўнай царкве ў Польшчы. Польскае пасольства, тымчасам, адкінула гэту прапазыцыю, ня маючы на перагаворы адпаведных упаважненьняў.

— „Wiener Jornal“ паведамляе з Бэрліна, што нямецкі ўрад ня згодзіцца на спроектованы падзел Верхн. Сьлезіі. Трактат прадбачыць падзел краю, але не гаспадарчы дабрабыт тэрыторыяў, якія будуць адступлены Польшчы. Прызнаньне Сьлезіі адміністрацыйнаю й гаспадарчаю адзінкаю пры адначасным адданьні большасьці тэрыторыі Польшчы азначала-б, што Нямеччына 15 гадоў павінна адміністраваць гэтыя тэрыторыі на карысьць Польшчы. Гэткія варункі Нямеччына адкіне.

*Нядзеля*, 16 *кастрычніка*.

— Маркіз Імпэрыяль з націскам пацьвярдзіў, што Рада Лігі Народаў абгаваравала верхнясьлезкую справу зусім бесстаронна й незалежна, маючы на ўвазе адно толькі справу міру.

— Есьць весткі быццам Лейд-Джордж меўся запрапанаваць Амэрыканскаму Ураду адклад конфэрэнцыі ў Вашынгтоне аб раззбраеньні да сакавіка 1922 г.

— Сэрбскі кароль Аляксандар паведаміў рымскага Папу, што ён рашыў адрачыся ад прастолу на карысьць свайго брата Юр'я.

— Чэхаславацкі Урад пастанавіў утварыць свае прадстаўніцтва пры Лізе Народаў у Жэнэве.

— Па вестках з Канстантынопаля, да кватэры Кэмаль-пашы выехала неофіцыяльная дэлегацыя, якая складаецца з ангельскіх і француcкіх афіцэраў і мае запрапанаваць Кэмалю новыя, болей карысныя для яго, варункі перамірыя з грэкамі.

— Амаль ня ўсе сябры Рады Лігі Народаў ужо выехалі з Жэнэвы.

— Бальшавікі сконфіскавалі на граніцы багаж дыплёматычнага латыскага консуля ў Петраградзе. Лацьвійскі Урад запротэставаў проці гэтага.

— Паводлуг вестак з Бэрліна, прэзыдэнт Паўднёва-Кітайскае рэспублікі ідзе з войскам на Пэкін.

— Прыбыўшы ў Лёндан з Жэнэвы, Бальфур меў доўгую нараду з лёрдам Кэрзонам аб справе жэнэўскай пастановы.

— Аг. „Е. Е.“ даведалася, што старшыня Вярхоўнай Рады Брыян паведаміць у панядзелак 17 г. м. Польшчу й Нямеччыну аб разрашэньні справы падзелу Верхняе Сьлезіі.

*Панядзелак*, 17 *кастрычніка*.

— 15. X ў Варшаве пасьля палудня пачалася забастоўка протэсту, абвешчаная Цэнтраляй Профэсыянальных Саюзаў проці проектаванай адмены караў за нарушэньне 8-гадзіннага рабочага дня.

— Варшаўскія часопісі падаюць тэкст проекту закону аб аднаразовым падатку, які мае, пам. інш. пункт, паводлуг каторага ўласьнікі зямлі больш за 10 гэктараў маюць права частку зямлі прадаць дзеля пакрыцьця сумы падатку.

— „Przegląd Wieczorny“ паведамляе, што быццам у лістападзе пачнуцца перагаворы аб заключэньні польска-аўстрыйскага гандлёвага дагавору.

— „Gaz. Warsz.“ даведалася, што пасол д-р Радзішэўскі выехаў у Брусэль з мэтаю знайсьці для Польшчы мільярдовую заграпічную пазычку.

— Паводлуг вестак з Лёндану Кэрзон прыняў польскага пасла Врублеўскага ў спэцыяльнай аудыенцыі.

— 14 кастрычн. а 8 гадз. ўвечары ангельскі ўрад адтрымаў тэкст пастановы Лігі Народаў аб Верхняй Сьлезіі. А 10 гадз. ангельскі ўрад, выслухаўшы даклад Бальфура, прызнаў добраю пастанову Лігі.

— Будучы выслуханым у Лёндане кабінэтам міністраў, Бальфур заявіў, што Рада Лігі Нар. перамагла ўсе труднасьці рашэньня лёсу Верхняй Сьлезіі, прымаючы пад увагу даныя плебісцыту. Бальфур

# Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

**(Рэфэрат, чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 8 лістапада 1920 г.).**

(Гл. № 16).

Невядома, што было-б далей, калі-б гэнэралу Мусьніцкаму ўдалося ўехаць у Менск з сваімі галоўнымі сіламі раней за немцаў, аднак трэба ад'значыць, што апрача раззбройваньня расейскіх казармаў і забіраньня каштоўнасьцяў, як напрыклад, на пошце, перадавыя часьці легіянэраў непасредна проці Беларускага Ўраду й яго агэнтаў (калі ня лічыць зьніманьня пастоў) выступленьняў не рабілі.

А Ўрад Беларускі злажыўся незабаўна па заняцьці Выканаўчым Камітэтам быўшага Губэрнатарскага Дому. Выканаўчы Камітэт, значна папоўнены кооптацыяй у яго склад сяброў Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады і некаторымі прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў, выдзяліў з сябе новы орган, які стаў гістарычным першым беларускім кабінэтам (міністэрыумам). У Выканаўчым Камітэце была нейкі час гутарка аб тым, як ахрысьціць новы орган. Прапанавалася навет назваць яго Народным Камісарыятам, а сяброў яго, значыцца, народнымі камісарамі. Але, праз тое, што гэткую, хаця й зусім зразумелую й для беларускага народу, назву насіў бальшавіцкі ўрад, дык усе згадзіліся назваць першы беларускі Ўрад **Народным Сэкрэтарыятам**, а сяброў гэтага ўраду **народнымі сэкрэтарамі**. 21 лютая 1918 году Народны Сэкрэтарыят выпусьціў абвестку, што ён прыступіў да спаўненьня сваіх абавязкаў. Старшынёю Ўраду нязьменна застаўся **Воронка**, ён-жа абняў і заграпічныя справы Беларусі. Рэшта народных сэкрэтароў былі гэткія:

Ўнутраных справаў—**Макрэеў**.
Народнай Прасьветы—**Смоліч**.
Справядлівасьці—**Бялевіч**.
Народнай гаспадаркі—**Серада**.
Шляхоў—інж. **Рэдзька**.
Грашовых справаў—**Белкінд**.
Апекі—**Бадунова**.
Велікарускіх справаў—**Злобін**.
Пошты й тэлегр.—**Карач**.
Кантролю—**Крачэўскі**.
Вайсковых справаў—**Езавітаў**.
Загадчык справаў сэкрэтарыяту—**Заяц**.

У дзень уваходу немцаў у Менск, 22 лютага. Варонка пасьпеў распарадзіцца, каб гэты сьпісак быў на нямецкай мове разьлеплены на вуліцах Менску.

21 лютага 1918 году была выпушчана першая **Устаўная Грамата** да Народаў Беларусі.

Яна была надрукована позна ўночы (пасьля 3 гадзіны) ў гістарычнай па друкаваньню беларускіх твораў друкарні Грынблята, калісьці быўшай Іокеля Дворжэца.

Першы пісаны акт Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага Зьезду быў невялічкі гэткім сваім зьместам:

## УСТАЎНАЯ ГРАМАТА

да народаў Беларусі.

Радзімая старонка наша апынулася ў новым цяжкім палажэньні. Дзе цяпер уласьць, што тут была, няма ведама. Мы стаімо перад тым, што край наш можа быць заняты нямецкім войскам.

Вы павінны ўзяць сваю долю ў свае ўласныя рукі.

Беларускі народ павінен зьдзейсьніць свае права на поўнае самавызначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсональную аўтаномію.

Права нацыяў павінна знайсьці свае зьдзейсьненьне шляхам скліканьня на дэмократычных пачатках Устаноўчага Сойму.

Але і да скліканьня Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць.

Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду, дадаены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмократыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзейсьняючы заданьні Зьезду, абвяшчае сябе тымчасовую ўладаю на Беларусі, падходзячаю да кіраваньня краем і да найхутчэйшага скліканьня Усебеларускага Устаноўчага Сойму, на аснове агульнага, простага, роўнага, таемнага і пропорцыянальнага выбарнага права, дзеля ўсяго дарослага насяленьня, не рахуючыся з нацыянальнасьцю, рэлігіяй і полам.

Тымчасовую народную ўладу краю, якая паставіць сабе заданьне абароны і зацьвярджэньня здабыткаў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьняць створаны намі Народны Сэкрэтарыат Беларусі, які з гэтага дня пачаў выпаўняць свае абавязкі. Асабісты склад Сэкрэтарыяту будзе апублікаваны потым.

*Дана ў Менску-Беларускім 21 (8) лютага 1918 року.*

*Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Зьезду.*

Грамата была надрукована на беларускай і расейскай мове, проектавалася таксама надрукаваць яе пажыдоўску й папольску, чаму перашкодаю былі толькі, на першых часах, прычыны тэхнічныя.

Яшчэ не паскідаўшае царскіх кокардаў з шапак чынавенства расейскае бралася за бокі ад сьмеху, чытаючы беларускі тэкст Граматы. Але сьмеялася яно нейкім сьмехам вышкаленага на адзін бок раба. Цяляча-мяшчанская веселасць расейскага чынавенства пры чытаньні пабеларуску першага акту Беларускага Ўраду, ня шкодзіла аднак вярхом гэтага чынавенства, розным асобам „не ниже четвертаго класса“ зьяўляцца да кожнага з Народных Сэкрэтароў з прапанаваньнем „своих услуг“.

Нішто іншае, як мусі пачуцьцё ўсё-ж такі беларускасьці прывяло на пасяджэньне Выканаўчага Камітэту ў быўшы Губэрн. Дом дашчэнту зрусыфікаванага гэнэрала-ад-інфантэрыі Кандратовіча. Раней ён быў у Вайсковай Беларускай Радзе, але стуль яго выключылі здаецца за.. „буржуазнасьць“. З Вайсковай Рады быў выключаны за нешта і П. Аляксюк, але нейкім чынам ён ізноў трапіў ужо ў сябры Выканаўчага Камітэту мусі пры кооптацыі, але праўда ненадоўга. Цікава, што ў Выканаўчым Камітэце першаю прапазыцыяю Аляксюка было: кооптаваць у Камітэт амаль ня ўсю „Radu Polsku Ziemi Mińskiej“. Але ж ведама гэткая прапазыцыя тады ніякіх шансаў на ўдачу мець не магла. Дзіўна таксама, што велікарос Злобін, якога ў Менск закінуў прыфрантавы аддзел Усерасейскага Земскага Саюзу, ані ня думаў пра „велікарускія справы“, за якія ўзяўся ў Народным Сэкрэтарыяце, а ўвесь час расьпінаўся перад Выканаўчым Камітэтам з нейкім бесканечным дакладам аб палітыцы Довбор-Мусьніцкага ў Бабруйску, націскаючы праз меру на тое, што ён—эс-эр Злобін—страшэнны полёнофіл. Злобін тады толькі што вярнуўся з Бабруйску, куды пасланы быў у Камісіі Менскага Губ. Земства, каб умяшацца ў тое, што тварыў цяжкі рэжым Мусьніцкага з насяленьнем занятага ім павету. Але тымчасам, удачна, ці няўдачна, а Народны Сэкрэтарыят злажыўся і адразу прыцягнуў да сябе агульную ўвагу.

Нацыянальная рэвалюцыя, ўходзіла ў свае правы. Губэрнатарскі Дом стаў як-бы мініятураю таго, што год назад, у лютым 1917 году, выяўляў сабою Таўрыдзкі Палац у Петраградзе. Сюды сьцягвалі розны хлам, зусім у доме Ўраду непатрэбны; шоколяда, шынка, цукер, шынялі, нейкія салдацкія ў нязьмерным ліку дзягі, кулямёты розных сыстэмаў, навет два мотоцыклі можна было бачыць у пакоях быўшага

зазначыў, што Ліга занялася переважна правядзеньнем палітычнае граніцы, але не эканамічнага бар'еру. Кабінэт прыняў аплёдысмэнтамі рашэньне Лігі.

— Конфэрэнцыя паслоў у Парыжы мае рашыць пытаньне аб мерах, якія трэ' будзе прыняць пры зьдзейсьненьні жэнэўскай пастановы аб Верхняй Сьлезіі.

*Аўторак, 18 кастрычніка.*

— 16 г. м. ўночы забіты ў Маскве ударам штылету ў шыю сэкрэтар польскай дэлегацыі па справах рэпатрыяцыі, Францкевіч. Адбываецца сьледзтва.

— 16 г. м. вураднікі савецкага пасольства ў Варшаве забілі дошкамі памяшканьне інспэктарату 2-й арміі, што знаходзіцца побач з Рымскім готэлем. Дзяжурны вураднік інспэктарату змушаны быў праз вакно клікаць на падмогу. Міністэрства заграгічных справаў заявіла протэст па гэтай справе ў Сав. пасольства трэбуючы задавальненьня.

— Польскі пасол у Парыжы злажыў ноту да Рады Паслоў аб хутчэйшым апублікаваньні рашэньня аб Верхняй Сьлезіі.

— У палітычных кругох Парыжа ходзяць чуткі, што пытаньне аб падзеле В. Сьлезіі будзе вырашана аканчальна Вярхоўнаю Радаю, а не Радаю Паслоў.

— Рыская рас. газэта „Сегодня" знаходзіць, што Ліга Народаў стварае з Сьлезіі новы Эльзас.

— „Monitor" апублікаваў прыказ аб назначэньні быўш. польск. міністра ўнутр. спр. Рачкевіча навагрудзкім ваяводаю.

— „Kur. Por." падае чутку, што ў Польскім Сойме мае быць паднята пытаньне аб аўтаноміі Усходняе Галіцыі.

— На лініі Менску стаяць сем дывізіяў стральцоў Чырвонае Арміі.

— З Чыты паведамляюць аб пачатку наступленьня чырвоных войскаў проці войска Рэспублікі Далёкага Усходу. Нікольск акружаны чырвонымі.

*Серада, 19 кастрычніка.*

— Нямецкі аддзел Верхняе Сьлезіі паслаў канцлеру Вірту гэткую тэлеграму: Лічым, што жэнэўская пастанова нарушае Вэрсальскі трактат. Трэбуем, каб нямецкі ўрад бязумоўна адкінуў проект. Немагчыма нямецкаму ўраду пакінуць нямецкі народ на здабычу ворагам. Трэбуем, каб нямецкі ўрад ня прыняў бяз нас ніякага рашэньня.

— Нямецкая прэса заклікае свой урад увайсьці ў згоду з польскім урадам, бо ад саюзьнікаў нічога нельга дабіцца.

— „Havas" паведамляе з Чыкаго, што з прычыны паніжэньня платы 5 галоўных чугуначных сындыкатаў заклікаюцца да забастоўкі з 30 г. м,

— Чэская прэса зьмяшчае афіцыяльную заяву Бэнэша, што, будучы ў Жэнэве, ён ня меў ніякага дачыненьня да рашэньня верхнясьлезскага пытаньня.

— Начальнік францускай місіі ў Варшаве гэн. Нісэль вярнуўся з одпуску.

— У Рызе чакаюць павароту савецкага пасла Ганэцкага, які быў у Карсе на конфэрэнцыі з кэмалістымі.

— З Гэльсынгфорсу перадаюць, што падпісаны фінска-савецкі дагавор аб вывазе лесу з Карэліі.

*Чацьвер 20 кастрычніка.*

— Лідэры партыяў Польскага Сойму пастанавілі на нарадзе з мін. Скірмунтам пачаць абгавор сьлезкага пытаньня ў Сойме пасьля адтрыманьня польскім урадам тэксту рашэньня Лігі Народаў.

— Паводлуг вестак з Ростова, аддзелы Будзеннага мелі бой з паўстанцкаю кубанскаю арміяй гэнэр. Пржэвальскага, складзенай з 5 палкоў.

— Паведамляюць, што на Украіне сяляне йзноў паднялі паўстаньне проці бальшавікоў. Адзін чырвоны полк перайшоў на старану паўстанцаў.

— Паўстаньне ў Індыі пашыраецца.

— У Парыжы пацьвярджаецца вестка аб наступленьні бальшавікоў на рэспубліку Далёкага Усходу, а таксама аб адходзе войскаў Мэркулава.

— У Маскву вярнуўся польскі пасол Філіповіч.

— Савецкі прадстаўнік у Эстоніі патрэбаваў ад Эстонскага ўраду закрыцьця рэвальскай газэты „Последнія Извѣстія" за яе „некорэктны тон" у адносінах да сав. ўлады.

# Жыцьцё провінцыі.

**Для польскіх вучыцелек беларусы ня істнуюць.**

*Вёска Парэччы, Крынскай вол. Гарадзенскага павету.*

Гэта вёска знаходзіцца у 3-х вёрстах на ўсход ад мястечка Крынак. Людзі тут даволі бедныя. Вёска гэта даволі людная, балей як 80 гаспадароў; у Расею не ўцякалі. Усе каталікі, апрача якіхтолькі шасьцёх праваслаўных хатаў, але ўсе беларусы. Гаворадь чыстаю беларускаю моваю. Толькі адна бяда, што людзі тут надта цёмныя. Кожную зіму наймаюць польскую вучыцельку на свой кошт, а дасюль няма граматных людзёй. Праз сваю цемнату называюць сябе „палякамі" і толькі таму, што у парахвіі ксёндзпаляк. А праваслаўныя жывучы разам з каталікамі - „палякамі" (?) ня чураюцца беларускага імя і калі што, дык сьмела кажуць—мы беларусы.

У гэтую зіму ва ўсе пабочныя вёскі, навет і ў тыя, дзе былі беларускія, а цяпер закрытыя школы, паназначалі польскіх вучыцелек, ня мінулі і нашай вёскі. 1 кастрычніка палякі рабілі перапісь людзей, жывёлы, хто колькі мае зямлі, а таксама хто беларус, хто паляк і якая мова і хто куды хоча належаць. Каталікі дык усе пісаліся п а л я к а м і, што мова іх польская і што належаць да Польшчы, а з праваслаўнымі зусім іншая справа; пісаліся беларусамі, што мова іх беларуская і што належаць да Беларусі. Выпаўніць усё гэта даручалі вучыцелькам гэтае вёскі. У аднаго праваслаўнага беларуса вышла гэткая гісторыя: калі вучыцелька спытала яго, хто ён і куды хоча належаць, дык гэты гаспадар сьмела і з адвагаю сказаў, што ён беларус і хоча быць вольным, а месца дзе ён радзіўся і жыве ёсьць Беларусь і ён ня хоча быць іншым, а належаць хоча да Беларусі. Вучыцелька сказала: „пішэцеся да жыдоў, або да татараў, а не да Беларусі, бо такой няма, а хто пішацца беларусам ёсьць бальшавік і яму няма тут месца". Гаспадар адказаў ёй проста ў вочы, што яна дурная, калі раўнуе нацыю з партыяю і ня можа быць вучыцелькаю, калі ня знае што ёсьць беларусы і іхняя бацькаўшчына Беларусь (бачыце—ён вайною быў у няволі). Вучыцелька засароміўшыся, што так яе зняважыў, дала «spokój» і запісала, як ён казаў.

Я.

## „Сернічкі" ці „запалкі".

**САКОЛКА** (Горадз.).

Ў Сакольскім гаспадарскім коопэратыве селянін, падышоўшы да касы і вельмі далікатна, мусіць хацеў сказаць папанску, зьвярнуўся да касіера і сказаў: проша даць мне сернічкаў.

Касіер маўчыць, нібы й не да яго гавораць, бо ён страшэнны шовіністыпаляк.

Падумаўшы, што той ня чуў, селя-

---

Губэрнатарскага Дому. Калі я зьвярнуў увагу Старшыні Ураду, Я. Варонкі, на гэты хаос, дык той адказаў, што з гэтым трудна што парадзіць, бо Чхэідзэ ў Таўрыдзкім Палацы ў расейскую рэвалюцыю быў завалены яшчэ горш, навет акрываўленымі галовамі рэзанай жывёлы, праз якія, выходзячы на волю, мусіў перадзыгаць. На твары моцна стомленага бяссоннымі ночамі Старшыні першага Беларускага Ураду іграла пры гэтым лёгкая, яго звычайная усьмешка. У сваім кабінэце (пакоі № 11) ён часта момэнтамі сядзеў, падпёршы галаву рукамі, як-бы прыслухоўваючыся, калі пранясецца гэта абывательская бура.

Цяжка дый немагчыма пераказаць усё, што тварылася ў кароткі амаль няпоўны адзін тыдзень гэтага цікавага беларускага ўрадаваньня.

Нельга ня спомніць разумную прапазыцыю дэлегацыі ад Менскае Украінскае Громады, якая, зьявіўшыся ў Выканаўчы Камітэт для прывітаньня, раіла ўсе каштоўнасьці аддаць пад абарону украінскага сьцягу, бо Украіна тады ўжо заключыла з немцамі і аўстрыякамі мір. Шчыра-братэрская прапазыцыя украінцаў невядома чаму ня была прынята. А за гэта нічога украінцы не вымагалі, апрача таго, што прасілі пазычыць ім часова хаця... 3.000 рублёў.

Прышоўшы у Менск, немцы сапраўды не чапалі украінцаў, а з беларусамі, абыйшліся крыху йначай.

Разам з Довбор-Мусьніцкім зьявіліся ў Менск і немцы. Першы вайсковы аддзел нямецкі, які па чугунцы прыехаў у Менск, быў прывітаны ад беларусаў, на сваю ўласную рызыку, Раманам Скірмунтам, быўшым Старшынёю першага Менскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Нейкім асыстэнтам пры Скірмунце на гэтым прывітаньні быў П. Аляксюк. За тое, што Аляксюк, бяз ведама Выканаўчага Камітэту ўзяў на сябе гэткую ролю, ён быў зараз-жа з Камітэту выключаны.

Першыя тры дні, пасьля ўваходу ў Менск немцаў, яшчэ можна было бачыць, азброеных беларусаў адкрыта на вуліцы; іншы раз наўзавады пралятали па ёй беларускія коньнікі з стрэльбамі за плячыма. Першы батальён немцаў выстраіўся на Пляцы Волі перад самым Домам Народнага Сэкрэтарыяту (б. Губэрнат. Дом), на бальконе якога разьвяваўся беларускі сьцяг.

Сьцяг гэты быў зьняты немцамі толькі 25 лютага зранку, калі нямецкі камэндант гораду высяліў Народны Сэкрэтарыят з яго Дому і конфіскаваў касу Сэкрэтарыяту (каля 300.000 рублёў, найбольш думскімі білетамі). Трэба ад'значыць, што Народны Сэкрэтарыят завёў сваю зусім легальную касу толькі на самыя бягучыя патрэбы, а ўсю маемасьць рашыў пакінуць у распараджэньні істнаваўшых інстытуцыяў, як народную ўласнасьць.

Аб дзеяньні 25. II. 1918 нямецкага камэнданта Сэкрэтарыят незабаўна злажыў на рукі вышэйшага прадстаўніка нямецкае окупацыйнае ўлады мэморандум.

24 лютага Народны Сэкрэтарыят паслаў у Вярхоўны Польскі Камітэт (копія камандзеру 1 польскага корпусу) ультыматум аб забраных на пошце і ў палявых казначэйствах 38 і 2 каўкаскага расейскіх карпусоў капіталах.

У абодвых гэтых выпадках выступленьні Народнага Сэкрэтарыяту не далі ніякіх конкрэтных рэзультатаў.

Народны Сэкрэтарыят быў выселены окупантамі з урадовага свайго памяшканьня, але працы свае ён ня спыніў зусім. У конткаце з Гарадзкою Думаю й Менскаю Губ. Земскаю Управаю ён зьбіраўся склікаць 15 сакавіка 1918 году зьезд органаў самаўрадаваньня і грамадзкіх арганізацыяў, але ўсе замеры разьбіваліся аб упартасьць окупацыйных уладаў, якія вялі сваю чыста-нямецкую палітыку проста і непаславянску хітра.

Арыгінальна вельмі тое, што немцы пакінулі беларускія органы, як кажуць, варыцца ў сваім уласным саку, толькі, са ўсею дасканальнасьцю нямецкага адміністрацыйнага апарату, ізолявалі іх ад усялякіх зносін з провінцыяй. Польскаму корпусу Довбор-Мусьніцкага немцы далі дзялянку на сваім фронце, які дакаціўся да лініі Дняпра, а пасьля навет і польскі корпус быў ім непатрэбен, а таму і разброены.

У нязвычайна цяжкіх варунках окупацыйнай ізоляцыі Народны Сэкрэтарыят і Выканаўчы Камітэт зьбіралі, якія маглі, каля сябе сілы.

Спрытная палітыка Варонкі, а часткаю і Цьвікевіча ўвяла ў круг беларускае палітычнае працы земствы і гарады, а таксама й дэмократычныя слаі нацыянальных меншасьцяў.

А тымчасам, пакуль зусім ня ўліліся гэтыя элемэнты ў круг беларускае палітыкі, Выканаўчы Камітэт Рады 1-га Ўсебеларускага Зьезду выдаў 9 сакавіка 1918 г. другую гэткую Устаўную Грамату да Народаў Беларусі:

**„Устаўная грама'га да Народаў Беларусі.**

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзержавы і аслабаняе другіе, абудзілася Беларусь да дзержаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор—Усебеларускі Зьезд 5—17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і баронячы дзержаўные правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устрою Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох разсяленьня і лічбеннай перавагі беларускага народу абвешчаецца Народнаю Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Установчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаемнага і пропорцыянальнага выборчага права, ні зважаючы на пол, народнасьць і рэлігію.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Установчы Сойм Беларусі, законадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меньшасьцяў Беларусі.

4. Спаўняючая і адміністратыўная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сэкрэтарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае атвет.

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвешчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная вольнасьць сумленьня, нізачэпнасьць асобы і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвешчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, хто самі на ёй працуюць. Лясы, вазеры і нутро зямлі абвешчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-і гадзіновы рабочы дзень.

Абвешчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьці працоўнага люду. А так сама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часі Установчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і атветнай нашай працы.

Выдана ў Мінску-Беларускім, 9 сакавіка 1918 р.

*Спаўняючы Камітэт Рады 1-га Усебеларускага Зьезду.*

**Краўцоў Макар.**

(Працяг будзе).

нін ізноў зьвяртаецца, яшчэ далікатней:

— Паночку проша даць мне серчыкаў.

— Цо? — зароў той, як бык, — якіх „сернічкаў“, „серчыкаў“; няма ў нас такіх...

— А—та-ж вось ляжаць — паказаў селянін пальцам на палічку.

— То ні „серчыкі“, а запалкі.

— Вось што—зьдзівіўся селянін,— а я думаў, што як ў нас у вёсцы ўсе гаворaць „запалкі“ дык гэта мужыцкае слова, а тутака, на, маеш табе, наадварот.

**М. Г.**

## Пісьмо ў рэдакцыю.

Паважаны пане Рэдактару!

Памясьцеце ў сваёй паважанай газэце гэтае маё пісьмо:

Я, езьдзіўшы ў Вільню за сваімі асабістымі інтарэсамі, адтрымаў пачак беларускіх газэтаў «Беларускі Звон» і «Беларускія Ведамасьці», дазволеных цэнзураю, якія і вёз дамоў, каб падзяліцца са сваімі сябрамі і сваякамі, а таксама і для *Гуртка Беларускае Моладзі* ў *мястэчку Крынках*. Па дарозе ў Горадне, з аднаго вакзала на другі, задзяржаў мяне нейкі „сышчык“, які і завёў у posterunek паліцыі. Тут у мяне зрабілі рэвізыю у кішанёх і незнашоўшы нічога, апроч грошай і легітымацыі, шчыранька узяўся гэты «дзядзька сышчык» чытаць «Беларускі Звон». Як відно гэты пан вельмі зацікавіўся беларускаю літэратураю і пэўна доўга яе ня бачыў, што так з вялікаю смагаю накінуўся на пачак газэтаў. Гэты „сышчык“ выпытаваў пабеларускаму і навет добра гавора, а чытае яшчэ ляпей і добра разьбіраецца, бо прачытаўшы ўсю газэту сказаў; што гэтакіх газэтаў ён ня можа пусьціць, каб чыталі, бо яны толькі „людзей паскудзяць“ (словы сышчыка). Пратрымаўшы мяне балей як 4 гадзіны, напісаўшы пратакол выпусьціў, а газэты сконфіскаваў. Відаць, што гэты пан добры чалавек, бо на разьвітаньне, закураваючы, пачаставаў і мяне. Шкода мне яго, што ён гэтакі цёмны! Ня знае дзе жыве і навет не падумае, што цяпер 20 сталецьце.

**Я. Лотыш.**

# Беларуская хроніка.

### У 1-й Вілен. Беларуск. Гімназіі.

Дзеля ўдвое перавышаючага норму ліку вучняў у 3 клясе 1-й Віленскай Беларускай Гімназіі, кляса ў гэтым годзе падзелена пастановаю Пэдагогічнай Рады Гімназіі на дзьве клясы; такім чынам, цяпер у Гімназіі тры паралельных клясы, 1-я, 2-я і 3-я.

Для вучняў з провінцыі, каторыя спазьніліся дзеля важных прычын прыехаць у Вільню к пачатку школьнага року, прыём прашэньняў адчынены на далейшы час.

Для прыезных вучняў адчынены інтэрнат.

Пеяньне выкладаць у Гімн. згадзіўся і ўжо дае лекцыі вядомы арганізатар беларускіх хораў і гарманізатар народных песьняў п. Ф. Згірскі.

Пэдагогічная Рада Гімназіі пачала арганізаваць популярную і навуковую бібліятэку для сваіх вучняў. Да апошняга часу справа гэта стаяла так: кніг было мала, а падручнікаў і навуковых кніг было яшчэ менш. Цяпер Пэдагогічная Рада хоча папоўніць гімназіяльную бібліятэку кнігамі і падручнікамі па ўсіх краінах знаньня, каб даць дзецям вельмі незаможных, бедных бацькоў магчымасьць карыстацца патрэбнымі навуковымі падмогамі.

Ахвяры грашмі і кніжкамі на усіх мовах прыймаюцца штодзень у час лекцыяў (9—2 г.) ў будынку гімназіі — Вострабрамская 9, Загадчыкам Бібліятэкі, вучыцелем М. Красінскім.

### Не ўгару, а ўніз...

Год назад адна Віленшчына мела каля 200 беларускіх школ. Потым, калі абшар Сярэдняе Літвы быў абрэзаны, беларусы мелі тут 4—5 дзесяткаў школ. Ашмянскі павет меў да гэтага часу 24 беларускія пачатковыя школы. Цяпер там, дзе гмінныя рады не адпавядаюць праву выбарнасьці і ворага настроены супроць беларускасьці (прыкладам, у некаторых чыста беларускіх і праваслаўных валасьцях Рада ня мае ў сваім складзе ніводнага беларуса), пры разьмеркаваньні школьных пунктаў, ухвалены замест беларускіх школ — польскія, або зусім скасованы школьны пункт. На моцы гэтакіх ухвал Ашмянскім школьным інспэктарам 1-га кастрычніка зачынена 11 беларускіх пачатковых школ: 6 у Гальшанскай гміне, 3 у Беніцкай і 2 у Крэўскай. Усе вучыцялі звольнены. Кожная школа ў свой час падавала школьнаму інспэктару пастанову сялян аб далейшым істнаваньні гэтых беларускіх школ у быўшых пунктах, на што школьная ўлада не зьвярнула ніякае ўвагі.

### Студэнты ў Прагу ня могуць выехаць.

Студэнты беларусы ў унівэрсытэт у чэскую Прагу ня могуць выехаць, бо ўлада не выдае заграмічных пашпартоў. Асабліва трагічная доля тых матурыстаў беларусоў, якія паходзяць з беларускіх зямель, прылучаных Рыскім трактатам да Польшчы. Студэнтаў з гэных зямель ня прымаюць у Віленскі унівэрсытэт, калі яны летась падчас бальшавіцкага наступленьня не пайшлі самахоць у польскае войска.

### У Музыз.-Драм. Гуртку.

У суботу 22 кастрычніка Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток ладзіць вечар. Прадстаўлена будзе: „Гаротніца“ —жарт і „Шчыпкі“ камэдыя, і багаты дывэртысмэнт. Пасьля прадстаўленьня танцы да 4 гадз. раніцы.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Дэкрэт № 349 і па-базыльянскія муры.

Па дэкрэту Галоўнакамандуючага войскамі Сярэдняе Літвы за № 349, Дэпартамэнт Гандлю, Промыслу і Адбудовы Краю загадаў Епархіяльнай Радзе перадаць у казну 10 дамоў, якія нібыто былі конфіскованы расейскім урадам у 1864 г.; у тым ліку спамінаецца і д. № 9 на Вострабрамскай вуліцы (Троіцкі манастыр, у мурох якога зьмяшчаюцца розныя беларускія установы). Епархіяльная Рада, маючы дакумэнты, што паказаныя дамы ніколі конфіскованы ня былі, падала ў Часовую Ўрадуючую Камісію і Дэпартамэнт заяву, што загад Дэпартамэнту павінен быць скасованы, як няпраўны.

### Прапазыцыя аб беларусазнаўсьцьве ў расейскай гімназіі.

Віленская расейская жаноцкая гімназія п. Пасьпелавай запрапанавала вядомаму беларускаму пэдагогу, б. рэдактару „Незалежнай Думкі“, п. Г. Багдановічу выкладаць у гімназіі беларусазнаўства, прычым на гэтую навуку даюцца лекцыі голькі ў аднэй клясе. П. Багдановіч згаджаецца з тым варункам, што беларусазнаўства будзе заведзена ўва ўсіх клясах гімназіі. Будзем спадзявацца, што п. Пасьпелава ўрэшце зразумее, дзе і ў якім часе яна жывець, а ўзяўшы пад увагу тое, што ў яе гімназіі вучацца амаль ня выключна дзеці беларусаў, яна прынамсі згодзіцца на думку п. Г. Багдановіча, калі не перавядзе малодшыя клясы зусім на беларускую мову.

### А ён у адну дудку...

Арганізатар „Краёвае Сувязі“ п. Аляксюк паслаў гэнэралу Жэлігоўскаму такую дэпэшу:

„К угодкам гістарычнага дня, калі армія Пана Гэнэрала, ўваходзячы ў нашу (чыю-ж гэта сапраўды?—*Рэд.*) спрадвечную сталіцу Вільню, скінула кайданы перамогі і гвалту з роднага краю, беларускія прадстаўнікі шлюць правадыру вялікага ўчынку паздраўленьне і просяць мець веру, што яны гатовы разам з усім людам Віленшчыны змагацца за права і справядлівасьць. Старшыня Дэлегацыі Аляксюк“.

### Закрыцьце газэты.

12-га гэтага кастрычніка Дырэктар Дэпартамэнту Ўнутраных Справаў п. Сенкевіч закрыў штодзенную газэту на літоўскай мове—«Vilnius».

(„Now. Wil.“)

### Одгукі высяленьня Літоўскай Гімназіі з яе памяшканьня.

Афіцыяльна паведамляецца: «З прычыны паданых у друк і распусканых чутак аб нібыто быўшых грубіянствах і скандалах збоку ўрадовых органаў пры выдаленьні з дзяржаўнага будынку на Лукіскім пляцы 1-га кастрычніка г. г. Літоўскай Гімназіі, Аддзел Друку і Веравызнаньня Час. Урад. Камісіі упаўнамочан паведаміць, што Дэпартамэнт Унутраных Спраў ніякіх афіцыяльных даных, што пацьвярджаюць падобныя выпадкі, ня маець.

Дзеля таго, аднак, што ў літоўскім друку паказаны некаторыя іменьні і прозьвішчы асоб, нібыто пацярпеўшых ад агентаў органаў бясьпекі, Дырэктар Д-ту Унутр. Спраў 11 кастрычніка зьвярнуўся да пракурорскай улады, каб зрабіць сьледзтва, рэзультаты якога будуць апубліковы, а вінаватыя ў дапушчэньні бясчынства, калі запраўднасьць яго знойдзе пацьверджаньне, будуць з усёю строгасьцю пацягнены да адміністратыўнага, ці судовага адказу“.

### Падатак.

Згодна з пастановаю Гарадзкое Рады за 6 г. м. зацьверджанай Дэпартамэнтам Унутр. Спраў 14-га кастрычніка за № 609 з 17 гэтага кастрычніка з кожнага прашэньня, што будзе падавацца ў магістрат, будзе зысканы канцэлярскі збор у суме 100 марак.

### Грабеж.

У пятніцу 14 кастрычніка на Балеслава Станкевіча (вул. Субач 30), што праходзіў паміж 10—11 гадз. ўвечары па Нямецкай вул. напалі трох невядомых, апранутых у вайсковую форму. Пад выглядам обыску грабежнікі агледзілі кішані Станкевіча, забраўшы ў яго 60 марак і пашпарт.

(„Вил. Утро“)

### „Зсунаваўся па барадах“.

Пад гэткім загалоўкам у № 223 жыдоўскае газэты „Unzer Tog“ расказваецца пра ніжэйпаданае здарэньне:

22 прайшоўш. мес. рабін м. Ражанкі праходзіў па Завальнай вуліцы; на рагу Троцкае вуліцы да яго падышоў нейкі жаўнер і пачаў біць і рваць яму бараду. На рабінавы крыкі сабраўся натоўп і ўдалося затрымаць напацаўшага. Завялі яго да жандармэрыі, але там жаўнер вырваўся на калідор і зноў пачаставаў рабіна некалькімі ўдарамі. Аба ўсім напісаны пратакол.

## Віленская біржа.

За 19 кастрычніка 1921 г.

| | | |
|---|---|---|
| Даляры | 4000 | п. |
| Франкі | — | „ |
| Фунты штэрлінгаў | — | „ |
| Ост.-маркі (1000) | 30.00 | „ |
| Нямецк. маркі (100) | 32.00 | „ |
| 10 руб. золатам | 20000 | „ |
| 1 „ серабр. | 1175 | „ |
| 1 „ дробнымі | — | „ |
| Царскія 500 р. (за 100 р.) | — | „ |
| „ 100 р. | — | „ |
| „ дробныя | — | „ |
| Думскія 1000 р. | — | „ |
| „ 250 р. | — | „ |
| Керэнкі | — | „ |



Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна, М.-Сьцяпанаўская, 23.

Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.